Belarusan Canadian Coordinating Committee
Каардынацыйны Камітэт Беларусаў Канады
Comité Bielorussien De Coordination Au Canada



# КАМУНІКАТ Но. 8 (74 ад 1999), СЬНЕЖАНЬ 2002

## СЬВЯТКАВАНЬНЕ 82-х УГОДКАЎ СЛУЦКАГА ЗБРОЙНАГА ЧЫНУ Ў ТАРОНТА

У нядзелю 1-га сьнежня аддзел ЗБК арганізаваў ў Беларускім Рэлігійна-Грамадзкім Цэнтры ў Таронта сьвяткаваньне **Дня Герояў Бларусі - 82-х ўгодкаў Слуцкага Збройнага Чыну.**

Сьвяткаваньне памяці тых, што 27 лістапада 1920 году «пайшлі паміреаць, каб жыла Бацькаўшчына» - памяці Слуцкіх паўстанцаў - пачалося ў 10 гадзін раніцы літургіяй у БАПЦаркве Сьв. Кірылы Тураўскага ў Таронта. У адпаведным мейсцы літургіі а. Вячаслаў ЛоБін стаўшы на калені чытаў малітву за Беларусь:

«Сусьветны Уладару, **спрадвечны Божа**... Мы дзеці беларускага народу, молім Цябе шчыра: даруй нам нашыя правіны; ....даруй таксама тым, што крыўдзіў нас і зневажаў. Барані нас ад крыўды варожае... дай нам еднасьць веры, згоды ў грамадзкім і сямейным жыцьці, загаі нашы асабістыя й народныя раны, якія мы самі сабе ўчынілі, або ад няпрыяцеляў атрымалі..... Пашлі беларускаму народы ахвярных слугаў сваіх, якія праведным сумленным і мудрым жыцьцём і дзейнасьцьцю вялі-б яго да лепшае долі....

«Цябе, **Усячыстая Багародзіца** й нашая нябесная Маці, просім: пакрый нашу краіну сьвятым покрывам і будзь нашай апякункай і заступніцай.

«І Ты, **сьвятая Еўфрасіньня Полацкая,** асьветніца Беларусі, і ўсе сьвятыя заступнікі беларускага народу, маліцеся за нас, каб мы сталіся народам сьвятым...... які выконвае волю Божую й сваё пасланства..... і аддавалі славу, пашану й пакланеньне Богу ў Тройцы адзінаму, Айцу й Сыну і Сьвятому Духу. цяпер, заўсёды , і на векі вякоў . Амін.»

У свайм казаньні а. Вячаслаў, навязваючы да Евангельля, гаварыў пра выпадак, калі Ісус Хрыстос аздаравіў чалавека, мучанага нявыноснай хваробай - апанаваньнем яго «цэлым легіёнам» злых духаў. Ісус Хрыстос загадаў злым духам вызваліць чалавека, і дазволіў ім увайсьці у стада сьвіней, што пасьліся недалёка. Апанаваныя злымі духамі-няволяй жывёлы кінуліся ў мора і ўсе патанулі. Абураныя матарыяльнай стратай людзі сказалі Ісусу Хрысту пакінуць іх і іхнюю краіну. Людзі, падобна, як і мы ня раз, матарыяльную карысьць ставілі вышэй маральнае, ідэйнае. Не дацэньвалі аздараўленьня чалавека, ім важней была іхняя матыарыяльная маемасьць.

Гаварыў а. Вячаслаў, што сёньня мы сьвяткуем і беларускае нацыянальнае



54 Mary St., Barrie, Ontario, Canada, L4N 1T1 Tel/Fax (705) 725- 8654

сьвята - угодкі Слуцкага збройнага чыну; аддаем пашану памяці Случчакоў, якія аддалі сваё жыцьцё ў змаганьні за волю Бацькаўшчыны. І хоць Слуцкае паўстаньне - гаварыў а. Вячаслаў - закончылася трагічна, бо амаль усе паўстанцы загінулі, ды ўсяроўна Слуцкі збройны чын мае вялікае значэньне. Ісус Хрыстос казаў: Зерне, толькі тады, калі ўпадзе на зямлю й памрэ, дасьць плён. Дасьць колас на хлеб. Случчакі палі ў нароўным баі й памерлі «каб жыць магла Радзіма». І далі нам прыклад і моц духу, як трэба бараніць незалежнасьць. Таму цяпер, казаў а. Вячаслаў, адслужым Паніхіду - багаслужбу за супакой душ і ушанаваньне памяці Случчакоў і ўсіх Герояў Белартусі. Ганаровую варту з нацыянальнымі сьцягамі: бел-чырвона-белым беларускім і канадыйскім да Паніхіды трымалі Раман Лаценькоў і Валеры Макарочко. На «Са сьвятымі» і «Вечную памяць» хілілі долу сьцягі. У знак пашаны памяці Герояў Беларусі вернікі трымалі ў руках, як сымбаль вечнага жыцьця, запаленыя сьвечкі.

Урачыустую памінальную багаслужбу закончыў адсьпяваны вернікамі гімн «Магутны Божа». З царквы выходзілі мы на сьвяточна прыстроеную залю Беларускага Цэнтру быццам лепшымі, багацейшымі й сільнейшымі духам, бо з намі быў ахвярны дух Слуцкіх паўстанцаў - Герояў Беларусі.

Наступная частка сьвяткаваньня Дня Герояў Беларусі адбывалася ў залі Беларускага Рэлігійна-Грамадзкага Цэнтру. Пачалася яна, прыгатоўленым спадарынямі, полуднем. Урачысты сход пачаў сп. Кастусь Акула адсьпяван.нем Малітвы «Беларусь наша Маці Краіна», адчытаньнем Сымбалічнае лісты змагароў Беларусі, і хвілінай маўчаньня аддалі мы пашану памяці Герояў Беларусі.

Ансамбль сьпевакоў - маладых жанчын і мужчын выканаў вязанку народных песьняў. Сьпявалі голасна й прыгожа. І падумалася мне: Няхай-бы гэты прыгожы, малады й галосны ансамбль быў у царкве на Паніхідзе й на канцы багаслыдбы гэтак хораша й голасна запяяў разам з усімі вернікамі гімн «МАГУТНЫ БОЖА!». Гімн у такім велічным выкананьні даляцеў-бы да Бога, а нам усім мацаваў бы наш беларускі нацыянальну дух. Тое, што нам цяпер найболей патрэбна - моцы беларускага нацыянальнага духу.

Старшыня Тарантонскага аддзелу ЗБК сп-ня Надзея Дробіна зачытала «Зварот да Беларускага Народу ў Дзень Герояў», ды «Зварот да ўдзельнікаў дэманстрацыі ў абарону незалежнасьці» Старшыні Рады Беларускай Народнай Рэспублікі, сп-ні Івонкі Сурвілла,

Тады Старшыня ЗБК дала слова для прывітаньня быломy страршыні Каадрынацыйнага Камітэту Беларусаў Канады, др. Раісе Жук-Грышкевіч. Зьвяртаючыся да Урачыстага Сходу Сьвяткаваньня Дня Герояў Беларусі - 82-х угодкаў Слуцкага збройнага чыну, прамоўца вітала прысутных зь беларускім нацыянальным сьвятам - **82-мі ўгодкамі Слуцкага збройнага чыну**, які, казала яна, быў вайной **Беларускай Народнай Рэспублікі** з савецкай Расеяй за незалежнасьць БНР. Гэта было змаганьне беларускага народу з акупантам за права быць гаспдаром на сваёй собскай зямлі.

Цяпер, так як 82 гады таму назад, беларускі народ апынуўся перад пагрозай утраты сувэрэннасьці Рэспублікі Беларусь. Пагроза ідзе з таго самага усходу - Расеі. Абавязак бараніць сувэрэннасьць Беларусі ляжыць на кожным беларусе, дзе

бы ён не знаходзіўся ў Беларусі, ці, як мы, за мяжой.

Дзеля гэтага нам трэба, перадусім, мацаваць наш беларускі нацыянальны дух, беларускі патрыятызм. Дзеля гэтага нам трэба дбаць пра стварэньне вакол кожнага із нас беларускамоўнай прасторы, бо без пашаны й любоў'і да свае роднае беларускае мовы ня можа быць беларускага нацыянальнага патрыятызму - а зь ім і непахіснае волі да захаваньня - здабыцьця дзяржаўнае незалежнасьці Беларусі.

Дзеля гэтага нам трэба гуртавацца ў беларускіх нацыянальных арганізацыях. такіх, як, прыкладам, Згуртаваньне Беларусаў Канады. Без арганізованасьці, мы ўсе - хай сабе, з асьветай, разумныя, здолныя людзі - прадстаўляем сабой толькі бязформную, пасыўную этнічную масу, зь якой ніхто ня лічыцца. Гэтага й жадаюць нам ворагі незалежнасьці Беларусі.

Праз арганізацыю мы можам, і мы будзем, калі ў нас ёсьць беларускі дух, праводзіць вялікую творчую нацыянальную беларускую, незалежніцкую справу.

Ад імя кіраўніцтва Каардынацыйнага Камітэту Беларусаў Канады прамоўца жадала усім нам добрага здароўя, моцы беларускага духу, і багатых плёнаў у працы накіраванай на карысьць беларускай вызвольнай справы.

Наймалодшы ўдзельнік Урачыстага Сходу, 3-х гадовы Бушкевіч, сын заступніка старшыні Парафіяйьнай рады сп. Аляксандра і сп-ні Оксаны Бушкевічаў, пацешыў прысутных прачытаньнем, з дапамогай свайго таты, вершыка пра Беларусь.

Даклад на тэму дня прачытала сп-ня Ірына Салавей, сябра Управы Тарантонскага аддзелу ЗБК. Афіцыйная частка сьвяткаваньня Дня Герояў Беларусі закончылася агульным адсьпяваньнем беларускага нацыянальнага гімну «Мы выйдзем шчыльнымі радамі». І так мы, беларусы Канады быццам сталі над «Паўстанскай магілаю» з думкай:

…І колькі іх зьлягло ,
          вясёлых і харошых…
Ці йшлі яны ў бой із песьняй маладой,
ці доўга несьлі боль, аж палі гэтта ніцма,
ці на Дзяды мядзяныя, у восені,
                    зь бядой
прыходзіць хто па іх паплакаць,
                    памаліцца?
Ці горка ім было, як зьнічкі, дагараць,
ледзь да прысягі Бацькаўшчыне ўзьняўшы
                    рукі,
ці ведаюць яны,
               што за народ, за край
крывавяць скрозь яшчэ браты, сыны ды
                    унукі?
Ці звоняць згоду ў год ім звонкія лісты
і «памяць вечную» і «са сьвятымі» ?
Ці знаюць -
          не памрэ ніхто й ніколі з тых,

што аддалі жыцьцё, каб жыць магла Радзіма?
Ідучы за Яе, ў нямінучы бой,
Як сьцяг, ахрышчаны крывёю, кожын
змагар іх памяць панясе з сабой....
І - пераможам !

*** *** ***

## Зварот грамадзкіх лідэраў Гарадзеншчыны

**14 жніўня прэзыдэнт Расеі Пуцін дазволіў сабе зьняважальныя заявы ў бок нашага народу, у якіх прапанаваў зьнішчыць Беларусь як самастойную дзяржаву. Нягледзячы на нэгатыўную рэакцыю беларускага грамадзтва на гэтыя заявы, спэцслужбы і СМІ Расеі, а таксама прадстаўнікі некаторых заходніх дзяржаваў пачалі спробы расколу беларускага грамадзтва па пытаньні стаўленьня да «прапановаў» Пуціна.**

Мы - прадстаўнікі грамадзкіх і палітычных арганізацый Гарадзеншчыны - зьвяртаемся да беларускай грамадзкасьці. Сапраўдны гістарычны выбар, які стаіць перад Беларусяй, - заставацца нэўтральнай краінай, як Швайцарыя, ці рухацца ў кірунку Эўразьвязу. Пуцін і Лукашэнка імклнуцца навязаць нам іншы «выбар», далучыцца да Расеі «асобнымі губэрнямі» ці «праз утварэньне саюзнай дзяржавы», Толькі жывучы ва ўласнай краіне мы можам пабудаваць сабе годнае й заможнае жыцьцё. Не паддамося падману, захаваем нашу дзяржаву!

Мы зьвяртаемся да лідэраў грамадзкіх і палітычных арганізацый: спыніце разгляд любых плянаў «дэмакратызацыі Беларусі», калі ў іх не прадугледжана, што пры любым варыянце разьвіцьця падзеяў Беларусь застанецца незалежнай краінай - суб'ектам міжнароднага права. Заклікаем усе дэмакратычныя сілы Беларусі аб'яднацца вакол ідэі захаваньня незалежнасьці нашай дзяржавы.

Мы зьвяртаемся да кіраўніцтва Беларусі. Спыніце небясьпечныя гульні «па далейшай інтэграцыі Беларусі з Расеяй», у тым ліку й працэс падрыхтоўкі да «увядзеньня расейскага рубля ў якасьці супольнай валюты». Хопіць шантажаваць уласны народ магчымасьцьцю страты яго дзяржавы.

Мы зьвяртаемся да прадстаўнікоў міжнароднай супольнасьці ў Беларусі . Спыніце агітацыю ў шэрагах беларускай апазыцыі пра мітычную мэтазгоднасьць уваходу Беларусі ў склад Расеі. Маўлшў, такім чынам «вы пазбавіцеся ад антыдэмакратычнага рэжыму Лукашэнкі». Па-першае, беларуская дзяржава - гэта базавая каштоўнасьць нашага народу і ня можа мяняцца на іншыя грамадзкія каштоўнасьці. Па-другое, сучасная Расея і дэмакратыя - рэчы ўзаемавыключальныя.

Паводле міжнародных законаў, нацыянальная дзярежава ня можа быць прададзеная, аддадзеная, адмененая, «далучаная» ці якім небудзь іншым чынам зьнішчаная . Такая дзяржава можа толькі будавацца і ўдасканаляцца. А яе жыхары маюць ня толькі права, але й абавязак бараніць дзяржаву ўсімі магчымымі спосабамі. Гэтыя прынцыпы поўнасьцьцю тычацца нашай роднай Беларусі й яе

народу!

**Алесь Астроўскі, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Сяргей Мальчык, Мікола Воран, Веслаў Бірула, Вадзім Саранчукоў, Мікола Маркевіч, Валеры Задаля, Тадэуш Гавін, Франц Мамуль, Зьміцер Іваноўскі, Юры Істомін, Аляксандар Антанюк, Андрэй Пачобут, Андрэй Мялешка, Валеры Кісель, Кастусь Жынь, Рыгор Леаданскі, Любоў Крупянская, Вікеньці Жук, Генадзь Скарадумаў, Аляксандар Жук, Мікола Баўсюк, Людміла Шаўчэнка, Казімор Локіць, Зьміцер Чарнель, Мікалай Касьцечка, Сяргей Астртаўцоў, Валянцін Лучко, Аляксандар Прыдзіла, Сяргей Сноп, Фюлікс Гавін, Андрэй Кусяльчук. (Са скаротамі.).**

**«Наша Ніва» (43) 22 лістапада 2002**

## Дарагія Суродзічы - грамадзкія лідэры Гарадзеншчыны!

Вітаем, дзякуем Вам і поўнасьцьцю згодныя з Вашым мудрым разважаньнем - «Зваротам», і да яго ўсёй душой далучаемся. Але, але! :

«Паводле міжнародных законаў , нацыянальная дзяржава ня можа быць прададзеная. аддадзеная, адмененая, «далучаная», ці якім небудзь іншым чынам зьнішчаная. Такая дзяржава можа толькі будавацца і ўдасканаляцца. А яе жыхары маюць ня толькі права, але й абавязак бараніць дзяржаву ўсімі магчымымі спосабамі. Гэтыя прынцыпы поўнасьцьцю тычацца нашай роднай Беларусі й яе народу!»

На нас усіх, беларусах сьвету, ляжыць абавязак бараніц незалежнасьць Беларусі. І у гэтым памагай нам Божа.

Раіса Жук-Грышкевіч

*** *** ***

## Малітоўнік «ГОСПАДУ ПАМОЛІМСЯ»

Завяршэньнем-плёнам пільнае, шматгадовае працы а. Аляксандра Надсона, Апостальскага Візытатара для Беларусаў каталікоў замежжа, стаўся, выданы ў 2002 годзе выдавецтвамі - «Божым шляхам» - Беларускае каталіцкае місіі ў Англіі і «Сафія» - грэка-каталіцкае парафіі ў Полацку, малітоўнік **«ГОСПАДУ ПАМОЛІМСЯ».** Малітоўнік выдадзены з блаславенствам царкоўных уладаў пры падтрымцы Канфэрэнцыі каталіцкіх біскупаў ЗША. Фармат, як звычайна малітоўніка, невялікі, бачын 784. Выданьне надта прыгожае.

Гартаючы й пераглядачы малітоўнік я падумала, што кніга прадтсўляе духоўную спадчыну беларускага народу, запісанаю на цяперашняй беларускай мове. Гэта й задакумэнтаваньне асягненьняў беларускага сьвятарства 20-га стагодзьдзя - асягненьняў беларускага народу ў галіне рэлігійнае літаратуры.

Малітоўнік **«Госпаду памолімся»**, можа не задумана, адзначае 480-я ўгодкі беларускага малітоўніка. Першым была **«Малая падарожная кніжка» выданая др. Франьцішкам Скарынам у 1522 годзе ў Вільні.**

У Прадмове да малітоўніка **«Госпаду памолімся»** Укладальнік, перакладчык і камэнтатар а. Аляксандар Надсон кажа:

«Малітоўнік «Госпаду памолімся» прызначаны для вернікаў Беларускай Грка-Каталіцкай Царквы. У ім зьмешчаныя, апрача малітваў да прыватнага ўжытку, тэксты Літургіі сьв. Яна Златавуснага і (у скароце) Літургіі сьв. Базыля Вялікага, Вячэрні і Ютрані, а таксама некаторых іншых службаў.

Беларуская духоўная спадчына прадстаўленая выбранымі малітвамі беларускіх аўтараў, такіх як, напрыклад, сьв. Кірыла Тураўскі, або ўзятымі зь беларускіх крыніцаў, у прыватнасьці з «Малой падарожнагй кніжкі.» Франьцішка Скарыны (Вільня 1522 г.), малітоўніка «Божым шляхам» а. Льва Гарошкі (Рым 1946) і інш. Найбольш выдатны з гэтых твораў - Акафіст Імю Ісусаваму з «Малой падарожнай кніжкі», аўтарам якога мог быць сам Скарына. Ён друкуецца замест добра вядомага ў бізантыйска-славянскай гімнаграфіі Акафіста Салодкаму Ісусу.»

Малітоўнік «Госпаду памолімся» пачынаецца разьдзлам «Малітва» - разважаньні над значэньнем малітвы , другім «Уступныя малітвы», якія Аўтар малітоўніка раіць ведаць на памяць. І прыпомнілася мне, як некалі мы - дзеці майго пакаленьня - ведалі іх на царкоўна-славянскай мове напамяць і рэцытавалі іх кожнага вечара перад сном. Цяпер нам трэба ведаць уступныя малітвы напамяць пабеларуску й маліцца, бо «Шчырая малітва адчыняе неба і дае праліцца струменьням Божае ласкі».

*** *** ***

Канчаецца 2002 год. Год, у якім мы страцілі Архіяпіскапа БАПЦ Уладыку Мікалая. Са сьмерцяй Уладыкі Мікалая закончылася цэлая, запачаткаваная Ім у кастрыніку 1954 году, эпоха БАПЦарквы сьв. Кірылы Тураўскага ў Таронта. Беларускае грамадзтва, згуртаванае вакол беларускіх нацыянальных арганізацыяў у Канадзе, стаіць перад заданьнем знайсьці магчымасьці далейшага існаваньня і разьвіцьця БАПЦ ў Таронта, якая праз паўстагодзьдзе была марал.най асновай Згуртаваньня Беларусаў Канады ды наагул беларускага грамадзтва. За новую маладую будучыню БАПЦ ў Таронта, нам трэба змагацца, падобна як поўстагодзьдзе таму назад мы стараліся й стварылі прыходу БАПЦ у Таронта.
Самое сабою нічога на сьвеце ня дзеецца, не ствараецца. Каб нешта асягнуць , высілкі патрэбныя й непахісная воля.

*** *** ***

Усім людзям добрае волі жадаем Вясёлых Каляд і Шчасьлівага Новага Году!

---

**Бэры, Канада**
**Сьнежань, 2002**

**Др. Раіса Жук-Грышкевіч**
**Былы Старшыня ККБК**

---